# Голас Радзімы

**26 ЛІСТАПАДА 1998 ГОДА**

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 2000 рублёў.

**№47 (2605)**

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны. Выдаецца з 1955 г.


**ВІЗІТНАЯ КАРТКА ЗАСНАВАЛЬНІКАЎ**

Сяргей КАРТЭС, старшыня таварыства "Радзіма":

## "КУЛЬТУРА, ЯК НІШТО ІНШАЕ, ДАЕ МАГЧЫМАСЦЬ ЧАЛАВЕКУ АДЧУЦЬ СВАЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ НЕПАЎТОРНАСЦЬ..."

***- Сяргей Альбертавіч, вам, відаць, як нікому іншаму, блізкія і зразумелыя праблемы эміграцыі, бо вы самі праз усё гэта прайшлі...***

- Наконт таго, што больш зразумелыя за іншых... Не ведаю. Але, сапраўды, дзяцінства і юнацтва мае прайшлі ў Алівасе, прадмесці Буэнас-Айрэса, горадзе, які калісьці даў прытулак сям"і майго дзеда па мацярынскай лініі. Я, як і мая маці, Людміла Паўлаўна, ганаруся радаводам Шастакоўскіх: прадзед, вучань Ферэнца Ліста, быў заснавальнікам Маскоўскага філарманічнага таварыства, дзед – афіцэр гвардзейскага Сямёнаўскага палка, потым – дырэктар адной з санкт-пецярбургскіх чыгунак. У васемнаццатым годзе падчас зіноў-еўскага тэрору ў Петраградзе, нейкі добразычлівец у падкінутай запісцы папярэдзіў дзеда аб маючым быць арышце. І дзед з бабуляй (між іншым, яна была вядомай рускай спявачкай), прыхапіўшы яго любімыя ноты, пасадзілі сваю сямігадовую дачушку на санкі і адправіліся ва ўцёкі па замерзламу заліву ў Фінляндыю...

***- І гэтыя ўцёкі прывялі іх ажно ў спякотную Аргенціну...***

- Так. Між іншым, у Аргенціне з эмігрантаў больш за ўсё беларусаў і ўкраінцаў, якія пакінулі Радзіму ў пошуках лепшай долі яшчэ да трыццаць дзевятага года.

***- Што больш за ўсё ўспамінаецца вам аб тым часе?***

- Водар сухіх траў і акіянскага брызу, чарапічныя дахі белых дамоў, заўсёды зялёная лістота, шумлівыя вясёлыя карнавальныя шэсці, танга... І мой першы настаўнік музыкі Якаў Фішар. Я пачынаў даволі позна, у 13 гадоў, але ўжо праз тры гады выконваў фартэпіянны канцэрт Моцарта. А яшчэ ўспамінаюцца сустрэчы ў клубе суайчыннікаў – ён існуе дагэтуль.

***- Як атрымалася, што пры вяртанні на Радзіму вы з сям"ёй апынуліся менавіта ў Мінску?***

- Проста ў пасольстве нам сказалі: калі ласка, куды толькі пажадаеце, але акрамя Ленінграда і Масквы... Ну, а паколькі ў нашым клубе Горкага, адным з тых, што аб"ядноўваў суайчыннікаў, мы чыталі вашу газету, то і спыніліся на Мінску. Аб чым я ніколі не шкадаваў. Тут я паступіў, хаця і пераросткам, у кансерваторыю, дзе маімі настаўнікамі былі вядомыя беларускія кампазітары Мікала[illegible]адаў і Ан[illegible]оль Багатыроў, маскоўскія музыканты Мікалай Пяйко і Юрый Фартунатаў. У кансерваторыі ж пазнаёмі[illegible] са сваёй будучай жонкай. У [illegible]су нарадзіліся двое маіх сыноў, якія таксама сталі музыкантамі... Дзмітрый, старэйшы, выпускнік Маскоўскай кансерваторыі, цяпер жыве і працуе ў Францыі, малодшы, Сяргей, з намі. Ён флейтыст, лаўрэат некалькіх міжнародных конкурсаў.




Аднойчы мая ўнучка, што расце ў Францыі, спытала: "Дзядуля, а хто я па нацыянальнасці?.."

***- І што вы адказалі?***

- Гэта не такое ўжо простае пытанне, бо ў нашым радаводзе не адны толькі рускія, мой бацька чыліец. Але я ніколі не пераставаў лічыць сябе рускім.

Між іншым, у Аргенціне ўсе мы – рускія, украінцы, беларусы – лічыліся савецкімі, бо нашай Ра-дзімай на той момант быў СССР. І калі я некалькі год таму, ужо пасля распаду Савецкага Саюза, пабываў у Аргенціне, наведаў некалькі клубаў-суполак суайчыннікаў, то сутыкнуўся і з неразуменнем. Маўляў, навошта было раздзяляцца?

***- А як вы лічыце?***

- Калі шчыра, з вялікай цяжкасцю магу маіх мінскіх сяброў і знаёмых падзяліць на беларусаў і рускіх. Але я цалкам за суверэнітэт Беларусі як дзяржавы, бо менавіта ён дапаможа выправіць хібы, што дапушчаны гісторыяй.

Толькі не трэба пры гэтым самаізаляваецца, даводзіць да спроб адмовіцца ад спадчыны вялікага Пушкіна на той падставе, што ён рускі... Так, я лічу, што колькасць беларускіх школ і ліцэяў у нас недастатковая, але прымусовасцю гэтую праблему не вырашыць. Самае каштоўнае, што ёсць у чалавеку, – гэта свабода выбару. Нават рэлігія не гвалтуе чалавека... Іншая справа, дапамагчы кожнаму ў нацыянальным самавызначэнні, а гэта немагчыма зрабіць імгненна – патрэбны час.

Між іншым, працэс нацыянальнага самавызначэння адбываецца і ў суполках суайчыннікаў у Аргенціне. Выраслі новыя пакаленні, якія ведаюць аб гістарычнай ра-дзіме бацькоў толькі па расказах старэйшых, а то ўжо і няма каму расказваць. Тут трэба, праўда, адзначыць, што дыяспары ў розных краінах маюць свае асаблівасці: тая ж аргенцінская нечым адрозніваецца ад канадскай...

І ўсё ж мне здалося ў маю апошнюю паездку ў Аргенціну, ды і па лістах, што прыходзяць на адрас таварыства "Радзіма": цікавасць новай генерацыі да каранёў, культуры, мовы сваіх дзедаў пачала зноў расці.

***- Што пішуць у тых лістах?***

- Звяртаюцца з рознымі просьбамі – даслаць запісы беларускай музыкі, маўляў, у літоўцаў на радыё ёсць свая музычная перадача, а ў нас няма; карты Беларусі, падручнікі... Нядаўна па запрашэнню таварыства "Радзіма" на стажыроўку ў Мінск прыязджала з Аргенціны група ўдзельнікаў самадзейных калектываў Федэрацыі клубаў суайчыннікаў. Дык хлопцы беларускага паходжання пыталіся, ці можна набыць беларуска-іспанскія слоўнікі. Сёй-той з іх крыху размаўляе па-руску, а цяпер вось адчулі жаданне вывучаць мову сваіх продкаў.

Мне вельмі імпануе, што таварыства "Радзіма"- непалітызаваная арганізацыя, трымае асноўны накірунак на культурныя зносіны, кантакты... На маю думку, культура, як нішто іншае, дае магчымасць чалавеку адчуць сваю нацыянальную непаўторнасць, свае карані.

***- Мы стаім на парозе трэцяга тысячагоддзя. Можа, яно здолее ўвайсці ў гісторыю чалавецтва як самае мірнае, бо зямляне нарэшце ўсвядомяць, што ва ўсіх нас адзін агульны дом.***

- Хацелася б у гэта верыць. Але ўсведамлення гэтага можна дасягнуць толькі тады, калі кожная нацыя, народ зробяць намаганні пазбавіцца ад розных комплексаў, у тым ліку і ад пачуцця переваргі над іншымі. А пазбавіцца ад комплексаў можна толькі тады, калі кожны да канца ўсвядоміць сваю непаўторнасць і самакаштоўнасць і прызнае гэта ў іншых. Галоўнае прызначэнне культуры, мастацтва - дапамагчы ў гэтым.

Гутарку вяла
**Марта КОСЦІЧ.**

## ШТО ДУМАЮЦЬ ПРА ЛЁС БЕЛАРУСІ НА БЕЛАРУСІ?

**Каб пашырыць уяўленне нашых чытачоў аб усім спектры меркаванняў, прадстаўляем тыя выданні, якія найбольш грунтоўна асвятляюць праблемы гісторыі і сучаснасці Беларусі.**

### "Беларускі гістарычны часопіс"

**пачаў выходзіць у свет у 1993 годзе. Ён ставіць на мэце садзейнічанне нацыянальнаму адраджэнню, росту самасвядомасці праз больш глыбокае вывучэнне гісторыі, пашырэнне гістарычных ведаў.**

**Прапануем вашай увазе шэраг артыкулаў з апошняга нумара часопіса ў газетным варыянце.**

3-6 стар.

**ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ Маргарыты СТАРЫХ**

***Не так ужо часта здараюцца ў журналісцкай справе адкрыцці, якія запамінаюцца. Адкрыцці Маргарыты Старых – гэта новыя і[illegible]ёны майстроў, унікальных людзей, якія змаглі "перакроіц[illegible]ой лёс і падпарадкавацца голасу спрадвечнага таленту, закладзенага ў іх. І як патрэбна было гэтым людзям, нашым сучаснікам, у пераломны момант жыцця слова журналіста, які змог ацаніць і расказаць усяму свету аб нараджэнні новага таленту. Гэтых людзей называюць НАРОДНЫМІ МАЙ[illegible]РАМІ.***

8 стар.

**ПАШТОЎКА**



**КОНКУРС**

БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ І КУЛЬТУРНАЙ СУВЯЗІ
З ЗАРУБЕЖНЫМІ КРАІНАМІ
І РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ"
ЗАПРАШАЮЦЬ ДА ЎДЗЕЛУ Ў КОНКУРСЕ

### "БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ"

У конкурсе могуць прыняць удзел чытачы і прафесіянальныя журналісты, літаратары, усе, каму ўласцівы самастойнае асэнсаванне і творчае адлюстраванне навакольнага свету, усе, хто хоча прызнацца,

**ЧЫМ ДАРАГІ БЕЛАРУСКІ КРАЙ І ЯГО ЛЮДЗІ.**

Пераможцы змогуць прыняць удзел у разнастайных міжнародных праектах ці адправіцца ў творчую паездку.

Ад чытачоў чакаем шчырых допісаў, ад літаратараў і журналістаў – твораў розных жанраў, фотаработ.

# Тыдзень. Каментарый. Хроніка падзей. Фотафакты

Юрась ДОМНІЧ.

Найбольш значныя для Беларусі падзеі на міжнароднай арэне на мінулым тыдні прайшлі ў галіне палітыкі. За гэты час нашу краіну наведаў з рабочым візітам старшыня Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі Генадзь Селязнёў, а на беларуска-літоўскай мяжы адбылася сустрэча прэзідэнтаў Аляксандра Лукашэнкі і Валдаса Адамкуса.

Трэба заўважыць, што нечаканы прыезд Г. Селязнёва насіў цалкам палітычны характар. Спікер расійскай Дзярждумы паведаміў, што ён прыбыў для таго, каб пазнаёміць А. Лукашэнку з вынікамі чарговай сесіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, якая ў пачатку месяца прайшла ў Яраслаўлі. Але разам з тым ён не хаваў, што падчас сустрэч у Мінску збіраецца абмеркаваць новыя інтэграцыйныя мерапрыемствы. Г.Селязнёў пакідаў Мінск з пэўнай доляй аптымізму, заўважыўшы, што "ў межах Саюза цалкам магчыма стварыць канфедэрацыю".

Сустрэчу А. Лукашэнкі з літоўскім Прэзідэнтам Валдасам Адамкусам, якая, дарэчы, адбылася па ініцыятыве апошняга, абгрунтавана можна назваць азнаямленчай: да гэтага кіраўнікі суседніх дзяржаў яшчэ не сустракаліся. Але, нягледзячы на афіцыйны статус перамоў, яны былі непадобнымі на такога рангу мерапрыемствы, паколькі месцам правядзення сустрэчы стаў літоўскі прапускны пунк "Медзінінкай". Акрамя перамоў прэзідэнтаў сам-насам, са сваім літоўскім калегам Альгірдасам Саударгасам меў гутарку міністр замежных спраў Іван Антановіч.

В. Адамкус пасля перамоў адзначыў, што яны сталі "добрым пачаткам для далейшага супрацоўніцтва", а А. Лукашэнка падкрэсліў, што "суседзі павінны весці дыялог, дыялог палітыкаў, кіраўнікоў дзяржаў". Не сакрэт, што кіраўнік Беларусі надаваў гэтай сустрэчы асобае значэнне. Гэта тлумачыцца тым, што Літва да гэтага часу ў значнай ступені падзяляла пазіцыі ў адносінах да Беларусі, прынятыя ў заходнееўрапейскіх краінах.

Прынамсі, на гэтым палітычная тэма была вычарпана і абазначыўся сапраўдны характар сустрэчы на мяжы, які быў у большай ступені эканамічным. Абмяркоўваліся таксама пытанні дэмаркацыі і аховы беларуска-літоўскай мяжы, праблема нелегальных мігрантаў. Кіраўнікі абедзвюх дзяржаў згадзіліся, што апошнюю можна вырашыць шляхам увядзення практыкі рэадмісіі.

У галіне эканомікі ўвага Беларусі скіравана на ўсход. Пра гэта сведчыць кола сустрэч і міждзяржаўных візітаў, якія прайшлі на мінулым тыдні. Так, з 7 па 14 лістапада ў Арабскай Рэспубліцы Егіпет знаходзілася дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з міністрам знешніх эканамічных сувязяў Міхаілам Марынічам. У яе склад таксама ўваишлі прадстаўнік Міністэрства абароны, кіраўнікі Беларускай гандлёва-прамысловай палаты, асобных прадпрыемстваў. Мяркуючы па выніках візіту, Беларусь сур'ёзна вырашыла замацавацца на афрыканскіх рынках. Менавіта на іх разлічаны выпуск МАЗаў, да зборкі якіх прыступілі на сумесным прадпрыемстве ў Егіпце. Раней паведамлялася, што мэрыя Каіра збіраецца зак[illegible] у Беларусі 200 тралейбусаў.

Эканамічныя інтарэсы беларусаў атрымліваюць станоўчы водгук як у кіраўніцтва АРЕ, так і ў афрыканскіх бізнесменаў. У бліжэйшы час у Мінск прыедзе прэм'ер-міністр Егіпта, а неўзабаве Беларусь наведаюць групы экспертаў, якія абмяркуюць перспектывы двухбаковага гандлю і магчымасці супрацоўніцтва ў галіне парашковай металургіі і электронікі. Рыхтуецца выстава тавараў егіпецкіх вытворцаў у Мінску.

А тым часам у беларускай сталіцы днямі завяршылася іншая міжнародная выстава — "Турцыя-98". Магчымасці вытворцаў гэтай краіны былі шырока прадэманстраваны на плошчах комплексу "Белэкспа". Але яшчэ больш яны дэманструюцца штодзень на рэчавых рынках літаральна ўсіх беларускіх гарадоў. Удзельнікі выставы і прадстаўнікі пасольства Турцыі ў Беларусі адзначылі, што ўзровень афіцыйнага супрацоўніцтва пакуль недастаткова высокі і далёка не адпавядае рэальным магчымасцям беларуска-турэцкіх адносін. Гандлёвы абарот склаў усяго 50 мільёнаў долараў ЗША. Між тым неўлічаны экспарт турэцкіх тавараў, які здзяйсняюць прыватныя прадпрымальнікі, паводле турэцкага боку, магчыма, перавышае афіцыйныя паказчыкі.

У мінулым годзе не былі зафіксаваны экспартна-імпартныя адносіны Беларусі з Палесцінскай Аўтаноміяй, а за 9 месяцаў гэтага года імпарт з Сектарам Газа склаў тысячу (!) долараў. Таму мэта прыезду 19 лістапада ў нашу краіну дэлегацыі палесцінскіх бізнесменаў, перамовы з прадстаўнікамі МЗЭС і іншых міністэрстваў можна ахарактарызаваць як знаёмства бліжнеўсходніх прадпрымальнікаў з нашай рэспублікай, з яе эканамічным патэнцыялам, як своеасаблівае навядзенне мастоў. Магчымае супрацоўніцтва будзе карысным і для Беларусі, і наша краіна знойдзе яшчэ аднаго экспарцёра ў арабскім свеце. Што да імпартных магчымасцяў Сектара Газа, то, паводле інфармацыі МЗЭС Беларусі, яны абмяжоўваюцца сельскагаспадарчай прадукцыяй, у прыватнасці, цытрусавымі.

Ужо зусім не для навядзення мастоў, а для пашырэння аб'ёмаў узаемнага гандлю прыехала ў Мінск дэлегацыя Алтайскага краю Расійскай Федэрацыі на чале з кіраўніком гэтага рэгіёна Аляксандрам Сурыкавым. Як вядома, Беларусь надае асаблівую ўвагу супрацоўніцтву з расійскімі губернямі, якое нават узведзена ў ранг міждзяржаўнага супрацоўніцтва. Таму члены дэлегацыі мелі магчымасць сустрэцца з Прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам, кіраўнікамі розных міністэрстваў, пабывалі на шэрагу прамысловых прадпрыемстваў. Па выніках візіту меркавалася падпісанне Пагаднення аб супрацоўніцтве і адпаведны мемарандум.

Заўважнай падзеяй у беларуска-украінскіх адносінах стала правядзенне 17 – 18 лістапада семінара "Беларусь – Украіна: урокі рэформаў і перспектывы супрацоўніцтва", які быў арганізаваны недзяржаўнымі структурамі: фондам імя Ф. Эберта і Нацыянальным цэнтрам стратэгічных даследаванняў "Усход-Захад". Удзельнікі семінару абмеркавалі сённяшнюю эканамічна-сацыяльную сітуацыю ў Беларусі і на Украіне, адзначылі агульныя палажэнні, прапанавалі шляхі выхаду з крызіснай сітуацыі.

У Беларусі ёсць шанц атрымаць дапамогу МВФ. Вынікі знаходжання місіі Міжнароднага валютнага фонду ў Беларусі былі разгледжаны ў ходзе сустрэчы старшыні праўлення Нацыянальнага банка Пятра Пракаповіча з дырэктарам другога Еўрапейскага дэпартамента МВФ Томасам Вульфам. У перамовах таксама прыняў удзел прадстаўнік МВФ у Літве Адальберт Кнобл.

Азнаямленне са свабоднымі эканамічнымі зонамі Беларусі – мэта візіту польскіх прадпрымальнікаў. У камітэце прадпрымальніцтва і інвестыцый Мінскага аблвыканкома бізнесмены з Польшчы абмяняліся вопытам работы з прадпрымальнікамі цэнтральнага рэгіёна рэспублікі, абмеркавалі магчымасці далейшага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва.

Прадстаўнікі Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі прынялі ўдзел у прайшоўшым у Берліне падпісанні Мемарандума аб працягу другога Крыцкага транспартнага калідора. Цяпер яго шлях з Берліна праз Варшаву-Мінск-Маскву працягнецца да Ніжняга Ноўгарада.

Чатыры беларускія прадпрыемствы прадставілі сваю прадукцыю на Міжнародным тэхнічным кірмашы "Восень-98", які прайшоў у балгарскім горадзе Плоўдзіве. Гэты паказ сабраў рэкордную колькасць удзельнікаў – каля 2 тысяч фірм з 36 краін.

Увядомых па рэкламе імпартных вітамінаў "Мульцітабс" з'явіўся беларускі канкурэнт. У Мінску ў цэхах навукова-вытворчага аб'яднання "Вібурнум" запушчаны ў серыйную вытворчасць дзевяць відаў полі-вітамі[illegible] і мінеральных комплексаў пад агульнай [illegible] "Вітус".

Азнаямленню з праектам "Рэгіянальнае развіццё і ахова прыроды ў еўрарэгіёне "Нёман" была прысвечана нарада ў Гродзенскім аблвыканкоме. У яе рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі каардынацыйнага бюро і тэхн[illegible] офіса праграмы Еўрапейскага саюза ТАСІС. Праект, для рэалізацыі якога выдзяляецца 1 мільён экю, актывізуе дзейнасць створанай у сярэдзіне мінулага года трансгранічнай супольнасці – еўрарэгіёна "Нёман" з удзелам Гродзенскай вобласці, Алітускага і Марыямпальскага паветаў Літвы, а таксама двух ваяводстваў Польшчы – Сувалкоўскага і Беластоцкага.

Эпохай Тызенгаўзаў названы ў гісторыі Пастаў росквіт горада ў 18 стагоддзі, які прыйшоўся на час іх праўлення. Сённяшнія дасягненні райцэнтра ў галіне культуры таксама значныя. Толькі ў гэтым годзе ў Паставах уведзены ў строй Дом рамёстваў, летні амфітэатр, праведзены ў парадак іншыя аб'екты культуры. З усяго свету ў горад штогод з'язджаюцца на фестывалі народнай творчасці выканаўцы на народных музычных інструментах, майстры прыкладнога мастацтва.

130-гадовы юбілей адзначыла Свята-Пакроўская царква, што знаходзіцца ў Лепелі. Існуе версія, што ўзведзена яна за адзін дзень. Паспешлівасць была выклікана, як сведчаць архіўныя дакументы, наступленнем халеры. У імя заступніцы ад хвароб святой мучаніцы Параскевы і быў узведзены храм.

Першы рэспубліканскі фестываль "Студэнцкі калейдаскоп" прайшоў у Мінску. У фестывалі прынялі ўдзел больш за тысячу студэнтаў, у тым ліку і замежных. Як вядома, у навучальных установах Беларусі навучаецца моладзь з 80 краін свету. Прайшло свята пад дэвізам "Давайце разам будаваць будучае!"

Спецыяльны заказ адной з буйнейшых амерыканскіх кампаній, якая займаецца распрацоўкай і пашывам рабочага спецадзення, выканала Бабруйская футравая фабрыка. У адпаведнасці з кантрактам падрыхтавана да адпраўкі вялікая партыя традыцыйных беларускіх зімовых шапак. Усе яны пашыты з айчыннага штучнага футра, якое вырабляецца ў Жлобіне на фабрыцы "Белфа".



**12 лістапада на мяжы двух краін адбылася сустрэча Прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі В.Адамкуса і Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі.**

*На здымку:* размова адзін на адзін.



**Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі праз Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ўжо трэці раз атрымала груз гуманітарнай дапамогі ад урада КНР. У склад груза ўваходзіць аргтэхніка, медыцынскае абсталяванне на агульную суму 2 мільёны юаней.**

*На здымку:* дакументы на груз перадае міністру па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь Івану КЕНІКУ Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Рэспубліцы Беларусь спадарыня У Сяоцю.



**З вялікім поспехам прайшла ў Мінску рэспубліканская маладзёжная выстава сучаснага мастацтва "Час. Прастора. Асоба", арганізаваная Беларускім саюзам мастакоў. Канцэпцыя выставы грунтавалася на дэкларацыі сусветнага кангрэса ЮНЕСКА, якая абвясціла значную ролю мастака ў развіцці грамадства. За дзесяць гадоў, што прайшлі з папярэдняй экспазіцыі маладых, змяніўся падыход мастакоў да творчасці, у іх працах пануюць раскаванасць, індывідуальны стыль.**

*На здымку:* паклоннікі сучаснага мастацтва.



**"Цуд-дзіця з дзіцячага сада" – так назвалі рамантычнае шоу, якое прайшло ў Віцебску. Свае таленты ў песнях і танцах прадэманстравалі юныя выхаванцы дзіцячых садоў.**

*На здымку:* у час шоу.

Фотахроніка БелТА

ПАЛІТЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ БЕЛАРУСАЎ...

*(Гістарыяграфічны аналіз праблемы)*

**Мікалай СМЯХОВІЧ**, ***кандыдат гістарычных навук. Даследуе пытанні гісторыі Беларусі XVIII-XIX стагоддзяў., праблемы метадалогіі гісторыі.***

У пачатку 90-х гг. XX ст. на хвалі нацыянальнага адраджэння прайшлі даволі вострыя дыскусіі па самых розных пытаннях айчыннай гісторыі.

Адным з пытанняў, на якое навуковая грамадскасць спрабавала даць адказ, было і пытанне аб нацыянальнай ідэі беларусаў. У дыскусіі па гэтай праблеме вызначыліся, на наш погляд, некалькі накірункаў – гістарычны, філасофскі і культуралагічны. Былі пастаўлены важныя пытанні: ці маюць беларусы сваю нацыянальную ідэю? Да якога гістарычнага перыяду можна аднесці яе зараджэнне? Ці мае яна аўтараў і канкрэтны тэкставы змест?

Паспрабуем даць кароткі гістарычны аналіз дыскусіі. Адным з прыхільнікаў гістарычнага накірунку з"яўляецца Арсень Ліс. У артыкуле "Беларуская ідэя і адраджэнне славян" ён адзначае, што "беларуская ідэя пачала фарміраванне ў асяроддзі студэнтаў і прафесараў Віленскага універсітэта ў 10-20-я гг. XIX ст.". А.Ліс выказвае думку, што менавіта ў Віленскім універсітэце адбылося "выкрышталізаванне беларускай ідэі ў яе першапачатковай форме". Гэта стала магчыма дзякуючы дзейнасці Ігната Даніловіча, Іосіфа Ярашэвіча, Тэадора Нарбута, Міхаіла Баброўскага. Яны і сталі хроснымі бацькамі беларускай нацыянальнай ідэі, якую яны разумелі як беларускае адраджэнне і найперш адраджэнне беларускай мовы.

Важным этапам у фарміраванні беларускай ідэі было паўстанне 1863 г. на Беларусі. "У час антыцарскага паўстання 1863 г. беларуская ідэя становіцца на новыя, практычныя рэйкі, выходзіць на палітычную арэну. Асобныя аспекты яе выяўляюцца ўжо на старонках "Мужыцкай праўды", — падкрэслівае А.Ліс. Далей ён заўважае: "Нарэшце адбываецца, можа, самая большая на той час заваёва беларускай ідэі – уступленне на літаратурную ніву Францішка Багушэвіча, першага буйнога песняра, паэта-дэмакрата, вешчуна нацыянальнага адраджэння".

Падчас дзейнасці групы "Гоман" беларуская грамадская думка здолела "аформіцца як канкрэтная палітычная праграма", што яшчэ болей пашырыла ўплыў беларускай ідэі, найперш у асяроддзі інтэлігенцыі. У 90-я гг. мінулага стагоддзя беларуская ідэя была канчаткова сфарміравана і набыла акрэсленыя палітычныя мэты ў вачах сваіх прыхільнікаў. Відавочна, что А.Ліс фактычна аб"ядноўвае нацыянальную ідэю з ідэяй адраджэння беларушчыны.

Да пазіцыі А.Ліса далучаюцца і іншыя навукоўцы. Напрыклад, Мікола Шкялёнак, які таксама падкрэсліваў, што ў творах беларускіх пісьменнікаў першай паловы XIX ст. "пачынае выяўляцца і думка палітычнага адраджэння беларускага народу".

Міхась Біч адзначае ролю К.Каліноўскага ў барацьбе за беларускую дзяржаўнасць, акцэнтуе ўвагу на тым, што Каліноўскі "выступаў з патрабаваннем самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі". Па аграрнаму і нацыянальнаму пытанню Каліноўскі быў салідарны з лозунгамі расійскіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў – А.Герцэна, М.Бакуніна, М.Агарова: зямля – сялянам, воля – правінцыям (Літве, Беларусі, Украіне). М.Біч фактычна аб"ядноўвае ідэю дзяржаўнасці і нацыянальную ідэю. Аднак непасрэднае нараджэнне нацыянальнай ідэі ён звязвае з дзейнасцю беларускай інтэлігенцыі, адзначае, што "ў 10-20-я гг. XIX стагоддзя сярод інтэлігенцыі уніяцкага і каталіцкага веравызнання зараджалася ліцвіна-беларуская самасвядомасць. Яна адбілася на навуковай і літаратурнай дзейнасці М.Баброўскага, І.Даніловіча, І.Ярашэвіча, А.Рыпінскага, В.Дуніна-Марцінкевіча, А.Кіркора, А.Вярыгі-Дарэўскага і інш.... Разам з тым, беларуская нацыянальная ідэя паступова выспявала і ў асяроддзі мясцовай праваслаўнай інтэлігенцыі, выхаванай у расійскай культуры".

Погляды М.Біча падзяляе і Г.Лыч, які на пытанне аб змесце беларускай ідэі адказвае, што гэта "дзяржаўнасць, нацыянальная бяспека Беларусі, яе суверэнітэт".

Да гістарычнага накірунку можна аднесці і даследчыка з Беласточчыны Алега Латышонка. У артыкуле "Народзіны беларускай нацыянальнай ідэі" ён піша: "...уласна беларускую нацыянальную ідэю стварылі не шля-

(Заканчэнне на 4-5-й стар.).




## ШТО ДУМАЮЦЬ ПРА ЛЁС БЕЛАРУСІ НА БЕЛАРУСІ?

***Каб пашырыць уяўленне нашых чытачоў аб усім спектры меркаванняў, прадстаўляем тыя выданні, якія найбольш грунтоўна асвятляюць праблемы гісторыі і сучаснасці Беларусі.***

***"Беларускі гістарычны часопіс" пачаў выходзіць у свет у 1993 годзе. Ён ставіць на мэце садзейнічанне нацыянальнаму адраджэнню, росту самасвядомасці праз больш глыбокае вывучэнне гісторыі, пашырэнне гістарычных ведаў.***

***На старонках часопіса з"яўляюцца матэрыялы вядомых і маладых беларускіх вучоных, іх калег з Польшчы, Расіі, Германіі, Літвы, ЗША і іншых краін.***

***Прапануем вашай увазе шэраг артыкулаў з апошняга нумара часопіса ў газетным варыянце.***

САЦЫЯЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

# ВЕРАВЫЗНАЛЬНЫ СКЛАД ДВАРАНСТВА БЕЛАРУСІ 1861-1914 гадоў

**Анатоль ЖЫТКО,**
*кандыдат гістарычных навук. Даследуе праблемы гісторыі дваранства Беларусі.*

Беларусь адрознівалася ад іншых рэгіёнаў Расійскай імперыі тым, што тут у 5 заходніх губернях было сканцэнтравана звыш 20% патомных дваран Еўрапейскай Расіі. Удзельная вага вышэйшага саслоўя сярод насельніцтва ў 1858 г. складала 4,5%, у той час як у 50 губернях еўрапейскай часткі імперыі ў сярэднім толькі 1%.

Пытанне аб веравызнанні беларускага дваранства нясе на сабе не столькі рэлігійнае, колькі палітычнае і культурна-нацыянальнае адценне. Рэлігійнае ў тым сэнсе, што вышэйшае саслоўе Беларусі было падзелена на дзве асноўныя часткі – на праваслаўных і каталікаў. Гэты падзел абумовіў і палітычную арыентацыю беларускага дваранства: каталікі – на каталіцкую Польшчу, а праваслаўныя – на Расію. Калі ўлічыць, што Беларусь (ВКЛ) з сярэдзіны XVI ст. разам з Польшчай утварыла канфедэратыўную, а пазней федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую, то гэта абумовіла пераход значнай часткі беларускай шляхты ў каталіцызм.

З другога боку, падзелы Рэчы Паспалітай і ўключэнне Беларусі ў склад Расійскай імперыі прывялі да рэлігійнага і палітычнага ўціску беларускай шляхты. Гэта з"явілася адной з палітычных перадумоў фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларускага каталіцкага і, за вельмі рэдкім выключэннем, праваслаўнага веравызнання.

Дваранства Беларусі, як і каталіцкае святарства, было самай высокаадукаванай часткай беларускага грамадства. Таму менавіта яно рэкрутавала з свайго асяроддзя нацыянальную інтэлігенцыю. Менавіта ў яе асяроддзі выспявала дэмакратычная ідэя барацьбы за нацыянальнае вызваленне. Аднак да пачатку XX ст. кола гэтых людзей было не надта шырокае. Таму царскія ўлады закрылі вышэйшыя навучальныя ўстановы ў краі, увялі абмежаванні для набыцця вышэйшай адукацыі дваранамі-каталікамі, а то і проста высылалі іх за межы Беларусі. За мэту ставілася ліквідацыя патэнцыяльнага нацыянальнага сепаратызму (з пункту гледжання расійскіх улад) беларускага вышэйшага саслоўя.

Як бачым, пытанне аб веравызнанні беларускага набілітэту – гэта не толькі рэлігійны, а і палітычны аспект.

Звернемся да гістарычнага аспекту гэтай праблемы.

Доўгі час існавала блытаніна па пытанні, каго ж разумець пад тэрмінам "рускія дваране", "дваране рускага паходжання", "няпольскага" і "польскага паходжання". Гэта выклікала пэўныя цяжкасці ў вызначэнні этнічнай прыналежнасці дваран. Так, у 1878 г. ігуменскі прадвадзіцель дваранства прадставіў спіс паявятовага дваранства праваслаўнага веравызнання. Іх колькасць складала 198 чалавек, у тым ліку адзін пратэстант (князь П.Вітгенштэйн) і адзін рэфарматар (буйны землеўласнік А.Грабоўскі). Аднак мінскі губернскі прадвадзіцель дваранства на тытульным лісце спіса пазначыў: "Дайце спіс землеўласнікаў рускага паходжання". У другім спісе значыўся толькі 41 землеўласнік – у асноўным велікаросы праваслаўнага веравызнання. Відаць, астатнія 157 чалавек, за выключэннем П.Вітгенштэйна і А.Грабоўскага, былі праваслаўнымі беларусамі.

Упершыню тэрмін "асоба польскага паходжання" сустракаецца ў законе ад 10 снежня 1865 г., паводле якога такім людзям было забаронена набываць землі ў 9 заходніх губернях. Літаральны сэнс гэтага тэрміна азначаў прыналежнасць да польскай нацыянальнасці. Аднак наконт таго, хто ў Заходнім краі з"яўляецца "асобай польскага паходжання", у законе нічога не гаварылася.

З цягам часу ў адміністрацыйнай практыцы ўсталявалася атаясамліванне паняццяў "польскае паходжанне" і "рымска-каталіцкае веравызнанне". Па сутнасці, усіх беларускіх дваран-католікаў залічвалі да "асоб польскага паходжання". Толькі напрыканцы 1904 г. П.Святаполк-Мірскі, які быў прызначаны міністрам унутраных спраў (да гэтага ён з"яўляўся віленскім генерал-губернатарам), зрабіў спробу ўраўнаваць у правах мясцовых дваран-католікаў 9 заходніх губерняў з рускім дваранствам. У запісцы, падрыхтаванай яго ведамствам, у прыватнасці, гаварылася: "У той час, як задача ўрада ў адносінах да Заходняга краю павінна была б мець за мэту раз"яднанне паняццяў, ці, больш дакладна, з"яў каталіцызму і паланізму, іншымі словамі, развіццё ў свядомасці мясцовага насельніцтва думкі, што яно хоць і каталіцкае, але не польскае,.. нашы законы імкнуцца пераканаць няпольскія народнасці ў тым, што раз яны католікі, то, значыць, і палякі".

Зразумела, што такі падыход быў выкліканы палітычнымі матывамі, а не толькі асабістым меркаваннем міністра. Напярэдадні рэвалюцыі абвастрылася нацыянальнае пытанне. Шмат партый выступіла з патрабаваннем права на нацыянальнае самавызначэнне нярускіх народаў. Узмацняўся і польскі нацыянальны рух за аднаўленне дзяржаўнасці Польшчы ў межах 1772 г. Заявіла пра сябе Беларуская сацыялістычная грамада, якая выступала за поўнае самавызначэнне народаў.

Таму ў якасці абгрунтавання сваёй пазіцыі міністэрства ўнутраных спраў зрабіла наступную выснову: "Садзейнічанне ў сучасны момант развіццю самасвядомасці няпольскіх народнасцей у Заходнім краі шляхам скасавання ў адносінах да іх існуючых абмежаванняў з"яўляецца задачай урада".

Хоць міністэрства і прапанавала ўраўнаваць у правах усіх дваран-католікаў Заходняга краю з рускім вышэйшым саслоўем, аднак кабінет міністраў, які распрацоўваў за-

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ФАЛЕРЫСТЫКА

# КАВАЛЕРЫ ОРДЭНАЎ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ З ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

**Дзмітрый КАРПІЕВІЧ**, *аспірант.*
***Вывучае пытанні фалерыстыкі і сацыяльна-палітычную гісторыю Беларусі XVIII стагоддзя.***

У Рэчы Паспалітай, як і ў іншых краінах Еўропы, вышэйшымі ўзнагародамі дзяржавы былі ордэны. Але з"явіліся яны тут значна пазней. Прычына таму – асаблівасці палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай, дзе дзяржаўны лад набліжаўся да шляхецкай рэспублікі. Выбранне караля, які дзеля паспяховай элекцыі (выбараў. – **Д.К.**) вымушаны быў гарантаваць шляхце ўсё большыя правы, прывяла да канцэнтрацыі ў руках гэтага саслоўя амаль поўнай улады. А паколькі з XVI ст. ордэны ў Еўропе сталі знакамі каралеўскай міласці да сваіх прыхільнікаў з магнатэрыі і чужаземцаў, то шляхта Рэчы Паспалітаў ставілася да іх стрымана.

Першым ордэнам Рэчы Паспалітай лічыцца заснаваны каралём Уладзіславам Вазам у 1637 г. ордэн Бязгрэшнага Зачацця Дзевы Марыі. Але ўвядзенне ордэна стала прадметам гарачых спрэчак сярод шляхты, і ён перастаў існаваць.

Лепшы лёс напаткаў тры ўзнагароды, якія былі заснаваны ў XVIII ст., а менавіта ордэны Белага Арла, св.Станіслава і Virtuti Militari ("За ваенныя заслугі"). Пра гісторыю гэтых узнагарод "Беларускі гістарычны часопіс" ужо пісаў. Паспрабую расказаць пра людзей, якіх узнагароджвалі ордэнамі Рэчы Паспалітай і менавіта пра тых, што паходзілі з Вялікага княства Літоўскага.

Вышэйшай узнагародай у Рэчы Паспалітай быў ордэн Белага Арла, які заснаваў кароль Аўгуст II у лістападзе 1705 г. Першапачаткова гэта ўзнагарода ўяўляла сабой медаль. Яго атрымалі "людзі мяча": гетман вялікі літоўскі Міхал Сервацы Вішнявецкі і гетман польны літоўскі Рыгор Агінскі, канцлер ВКЛ Кароль Станіслаў Радзівіл. У той час гэта былі самыя ўплывовыя асобы, якія падтрымлівалі Аўгуста II.

Трэба адзначыць, што першапачаткова ордэн Белага Арла з"яўляўся больш прыватнай, каралеўскай узнагародай. Толькі з 1713 г. можна гаварыць пра ордэн Белага Арла як дзяржаўную ўзнагароду. Ордэн не меў свайго статута. Пры ўзнагароджанні кіраваліся палажэннямі статута ордэна Бязгрэшнага Зачацця Дзевы Ма-

(Заканчэнне на 4-5-й стар.).

ФАЛЕРЫСТЫКА

# КАВАЛЕРЫ ОРДЭНАЎ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ З ВЯЛІКАГА

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

рыі, з якога вынікала, што кавалер ордэна павінен быў паходзіць з шляхты. Пры Аўгусце II з 50 чалавек, адзначаных ордэнам, 24 былі іншаземцы.

З Вялікага княства Літоўскага Аўгуст II узнагародзіў ордэнам каля 10 асоб. У 1713 г. ордэн атрымаў маршалак вялікі літоўскі Аляксандр Сапега, у 1722 г. былы маршалак Сандамірскай канфедэрацыі, надзейны прыхільнік Аўгуста II, польны гетман літоўскі і полацкі ваявода Станіслаў Дэнгоф. У 1726 г. ордэнам быў узнагароджаны Міхал Фрэдэрык Чартарыйскі. Пазней, у 1752 г., ён заняў пасаду канцлера Вялікага княства Літоўскага і адыграў значную ролю ў палітычным жыцці краіны ў 50—60-я гг. XVIII ст. У 1727 г. ордэн атрымаў канюшы вялікі літоўскі і староста перамышльскі Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька. Потым ён будзе віленскім ваяводам і гетманам вялікім літоўскім, стане на чале самага багатага магнацкага роду і "гетманскай" партыі ў ВКЛ.

Адным з кавалераў ордэна быў Ян Фрэдэрык Сапега, які атрымаў яго ў 1730 г. У той час ён быў кашталянам трокскім і таксама вядомы як аўтар першай кнігі пра гісторыю ордэна Белага Арла, якая была выдадзена ў 1730 г. на лацінскай і польскай мовах і па сённяшні дзень з"яўляецца істотнай крыніцай пры вывучэнні гісторыі ўзнагарод у Польшчы, Беларусі і Літве.

Пры Аўгусце III (1733-1763) захоўвалася адмоўнае стаўленне шляхты да каралеўскага ордэна. Па-ранейшаму кавалерамі ордэна Белага Арла ў асноўным былі прадстаўнікі магнатэрыі альбо чужаземцы. У гэты час з 335 асоб, якія былі ўзнагароджаны, 113 былі іншаземцы.

Сярод шляхты Вялікага княства Літоўскага Аўгуст III адзначыў звыш 70 чалавек, перш


*Марцін Пачобут-Адляніцкі.*

за ўсё гэта былі сенатары, ваяводы і кашталяны. У 30–я гг. XVIII ст. адным з першых у ВКЛ ордэн атрымаў віцебскі ваявода Марцыян Агінскі. Зазначым, што ён быў маршалкам Літоўскай канфедэрацыі, якая выступала супраць Аўгуста III і лічыла каралём Станіслава Ляшчынскага. Але рашучасці канфед[illegible] там надоўга не хапіла, б[illegible] вялося весці барацьбу з Расіяй і Прусіяй. У ліпені 1736 г. на сойме была зацверджана ўлада Аўгуста III, і ўжо ў жніўні гэтага года "за вялікія заслугі перад Айчынаю" [illegible] ны атрымалі былы вора[illegible] вага караля Марцыян Агінскі, а таксама яго сын – абозны вялікі літоўскі Ігнацій Агінскі...

...У апошнія чатыры гады праўлення Аўгуста III з Вялікага княства Літоўскага сярод іншых узнагароду атрымалі мсціслаўскі кашталян Ян Забела, берасцейскі кашталян Андрэй Абрамовіч, гетман польны літоўскі Юзаф Сасноўскі, маршалак надворны Юзаф Сангушка. У 1762 г. ор-


*Ігнацій Якуб Масальскі.*

дэн атрымаў палітычны дзеяч і пісьменнік Удальрык Крыштаф Радзівіл, аўтар кніг "Апісанне клопатаў людзей усіх саслоўяў" і "Агульная гісторыя".

Акрамя свецкіх асоб кавалерамі ордэна былі і некалькі прадстаўнікоў каталіцкай іерархіі, а менавіта віленскі біскуп Міхал Зяньковіч, ...жмудскі біскуп Антоній Тышкевіч. Узнагароду таксама атрымаў у 1762 г. Ігнацій Якуб Масальскі, які займаў больш за 30 гадоў пасаду віленскага біскупа і адыграў у 60—90-я гг. XVIII ст. значную ролю ў палітычных працэсах не толькі Вялікага княства Літоўскага, але і ўсёй Рэчы Паспалітай. Як першы старшыня Камісіі народнай адукацыі па ВКЛ, ён шмат зрабіў для развіцця асветы і адукацыі на Беларусі.

Сярод магнацкіх родаў Вялікага княства Літоўскага ў першай палове XVIII ст. па колькасці ўзнагароджаных ордэнам Белага Арла вылучаліся Сапегі, Радзівілы і Агінскія, якія мелі адпаведна па 9, 8, 7 кавалераў ордэна, і гэта зразумела, бо менавіта прадстаўнікі гэтых родаў у першай палове XVIII ст. адыгрывалі важную ролю ў жыцці не толькі Вялікага княства Літоўскага, але і ўсёй Рэчы Паспалітай.

Падчас праўлення Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1764-1795 гг.), які стаў каралём Рэчы Паспалітай пасля смерці Аўгуста III, па-ранейшаму важнейшай узнагародай краіны заставаўся ордэн Белага Арла, якім адзначалі магнатаў і асоб, якія займалі важныя дзяржаўныя пасады. Аднак ім былі ўведзены яшчэ два ордэны: св.Станіслава і Virtuti Militari. Ордэн св.Станіслава быў зацверджаны каралём 7 мая 1765 г. Ён меў адну ступень і быў разлічаны для больш шырокіх слаёў шляхты. Таму не дзіўна, што колькасць асоб, адзначаных гэтымі ўзнагародамі, істотна адрозніваецца. Так, ордэн Г[illegible]а Арла за час праўлення С[illegible]слава Аўгуста Панятоўскага атрымалі 551, а ордэн св.Станіслава – каля 1700 чалавек.

Варта адзначыць адзін істотны момант. Стваралася іерархія ордэнаў. Цяпер, каб[illegible]ь кавалерам ордэна Бела[illegible], неабходна было мець ордэн св.Станіслава, але на першым часе бывала, што ім адзначаліся і тыя, хто ўжо меў вышэйшую ўзнагароду...

...8 мая 1765 г. ордэн св.Станіслава атрымаў падскарбі надворны літоўскі і гарадзенскі староста Антоні Тызенгаўз. Гэта вельмі супярэчлівая асоба на палітычным небасхіле Рэчы Паспалітай 60-80-х гг. XVIII ст. Ён паходзіў з нерадавітай шляхты,


*Міхал Францішак Карповіч.*

аднак быў асабістым сябрам Станіслава Панятоўскага. Стаўшы каралём, Станіслаў Аўгуст звязваў з сваім колішнім сябрам пэўныя надзеі на рэфармаванне краіны. У 1765 г. А.Тызенгаўз прыняў кіраўніцтва каралеўскімі эканоміямі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. У прадмесцях Гародні было заснавана больш за дзесяць розных фабрык (суконная, панчошная, збройная і інш.). Аднак працавалі яны з малым прыбыткам або нават са стратай. А.Тызенгаўз правёў шэраг змен у землеробстве, якія грунтаваліся на ўзмацненні паншчыны, што прывяло нават да паўстання сялян. Разам з тым шмат чаго зрабіў А.Тызенгаўз для пашырэння асветы ў краі, а таксама для пабудовы ў Гародні прамыслова-культурнага цэнтра. У 1771 г. ён быў адзначаны ордэнам Белага Арла. Няўдалая гаспадарчая палітыка, інтрыгі магнатаў сталі прычынай адхілення ў 1780 г. А.Тызенгаўза ад кіравання эканоміяй...

...У перыяд праўлення Станіслава Аўгуста ў ВКЛ ордэнам Белага Арла было адзначана каля 70 асоб, а ордэнам св.Станіслава – каля 330 чалавек. Сярод узнагароджаных абодвума ордэнамі ў 60—80-я гг. XVIII ст. трэба назваць стольніка вялікага літоўскага Юзафа Клеменса Чартарыйскага (ордэн св.Станіслава атрымаў 1765 г.; ордэн Белага Арла ў 1767 г.), трокскага ваяводу Андрэя Ігнація Агінскага (1769 г., 1770 г.), мінскага ваяводу Тадэвуша Бужынскага (1766 г., 1769 г.), навагрудскага ваяводу Юзафа Несялоўскага (1772 г., 1774 г.). У 1773 г. адразу двума ордэнамі, што было вельмі рэдка, быў адзначаны мечнік вялікі літоўскі, а пазней кашталян і ваявода віленскі Міхал Еранім Радзівіл. У 1774 г. ордэн св.Станіслава, а ў 1779 г. ордэн Белага Арла атрымаў выхаванец варшаўскай Рыцарскай школы генерал артылерыі Казімер Нестар Сапега. Пазней ён падтрымаў вайсковыя рэформы і прыняў актыўны ўдзел у паўстанні 1794 г. У сярэдзіне 80-х гг. таксама двума ордэнамі Рэчы Паспалітай быў адзначаны абозны вялікі літоўскі Кароль Прозар. У 1794 г. ён быў адным з кіраўнікоў паўстання ў Вялікім княстве Літоўскім.

Сярод узнагароджаных у гэ-

ПАЛІТЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ БЕЛАРУСАЎ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

хецкія паэты і рэвалюцыянеры, а гістарычна адукаваных спакойных паповічаў. Драма ў тым, што не было каму іх слухаць". А.Латышонак выказвае думку, што да гэтых "спакойных паповічаў" належалі М.Баброўскі і І.Даніловіч ды іншыя прафесары Віленскага універсітэта, якія "марылі аб аднаўленні незалежнага ад Рэчы Паспалітай Вялікага княства Літоўскага, вартанні дзяржаўнага статусу беларускай мове і пра унію як нацыянальную рэлігію". А.Латышонак фактычна ідэнтыфікуе нацыянальную ідэю з ідэяй дзяржаўнага і культурнага адраджэння.

Аднак у "дзяржаўнікаў" ёсць апаненты. Так, польскі даследчык беларускай гісторыі Рышард Радзік не без падстаў адзначае, што М.Баброўскі і І.Даніловіч "не развілі сваіх ідэй настолькі, каб тыя сталі адназначна нацыянальнымі, і не пакінулі сваіх пераемнікаў". Ён звязвае пачатак беларускай ідэі з сацыяльна-рэвалюцыйным рухам, гаворыць, што ўпершыню сучасная ідэя беларускага народа, выразна насычаная палітычным зместам, была прадстаўлена ў друкаваных па-руску нелегальных лістах групы пецярбургскіх народнікаў, асабліва ў двух нумарах выдадзенага ў 1884 г. часопіса "Гомон".

Адным з прадстаўнікоў філасофскага напрамку ў дыскусіі з"яўляецца Уладзімір Конан. У артыкуле "Аб беларускай ідэі" ён выказвае думку, што адным з творцаў беларускай ідэі з"яўляецца беларускі паэт і філосаф Ігнат Канчэўскі (Абдзіраловіч). На думку У.Конана, менавіта І.Абдзіраловіч "вызначыў сутнасць гістарычнага лёсу беларусаў і беларускай ідэі". Сутнасць беларускай ідэі заключаецца ў творчых адносінах да быцця, у непрыняцці антыгуманных догм і прынцыпаў гэтага быцця, звязаных як з капіталізмам, так і з камунізмам. У гэтым кантэксце беларусам уласцівы не рэвалюцыйныя, а творча-эвалюцыйныя адносіны да духоўнага абнаўлення грамадства і асобы. Адказваючы на пытанне аб змесце нацыянальнай ідэі беларусаў, У.Конан падкрэслівае: "Гістарычнае прызначэнне Беларусі – стварэнне духоўна-культурнага і геапалітычнага мосту паміж Усходам і Захадам". Пачатак такому ўспрыняццю беларускай ідэі паклалі яшчэ беларускія магнаты ў 1572-1578 гг., калі яны выступілі з прапановай уніі Рэчы Паспалітай і Маскоўскай дзяржавы. На нашу думку, у такім разуменні нацыянальная ідэя выступае не як гістарычнаістотная катэгорыя, а як эвалюцыйны шлях у пошуках і вызначэнні народам свайго месца ў геапалітычным арэале еўрапейскіх народаў.

Сваю думку пра беларускую ідэю, але з іншым філасофскім адценнем выказвае Сяргей Дубавец. У артыкуле "Падставы рацыянальнага нацыяналізму" ён гаворыць, што "беларуская нацыянальная ідэя ў гісторыі выяўляецца рацыянальна", што гэта найперш "вера ў свае сілы", што на практыцы "беларуская ідэя – гэта беларускі шлях" у гістарычным развіцці.

У артыкуле Віктара Боўша "Асэнсаванне нацыянальна-самабытнага ў развіцці нацый і народаў" нацыянальная ідэя звязваецца з гістарычнай місіяй народа. Ён падкрэслівае, што "на ступені абагульнення нацыянальная ідэя займае сваё месца побач з катэгорыямі нацыянальнага духу і нацыянальнай душы. Яна мае аднатыпны змест і адрозніваецца, бадай, толькі большым акцэнтаваннем галоўнай нацыянальнай мэты, прызнання, сэнсу падключэння нацыі да глабальных працэсаў". Далей В.Боўш дадае, што "нацыянальнае прызванне і нацыянальны характар як два бакі нацыянальнасці ўтвараюць адначасова ядро нацыянальнага духу, нацыянальнай душы, нацыянальнай ідэі". Нацыянальная ідэя з"яўляецца адлюстраваннем нацыянальнай своеасаблівасці народа, і гэтая своеасаблівасць у ёй замацоўваецца. Важна адзначыць, што В.Боўш адносіць катэгорыю нацыянальнай ідэі "да фундаментальных паняццяў", што гэтае паняцце "адлюстроўвае пераважна духоўныя і маральна-псіхалагічныя якасці і рысы" і адыгрывае істотную ролю ў жыцці народа і нацыі.

В.Боўш пагаджаецца з думкай У.Салаўёва, што "арганічная функцыя, якая ўскладзена на тую ці іншую нацыю ў гэтым усяленскім жыцці, – вось яе сапраўдная нацыянальная ідэя, якая спрадвеку ўстаноўлена ў плане Бога". Варта нагадаць, што месіянскі характар нацыянальнай ідэі адзначалі многія расійскія філосафы. Так, С.Булгакаў сцвярджаў, што "нацыянальная ідэя абапіраецца не толькі на этнаграфічныя і гістарычныя падмуркі, але найперш на рэлігійна-культурныя, яна засноўваецца на рэлігійна-культурным месіянстве, у якім з неабходнасцю адліваецца ўсякае свядомае нацыянальнае пачуццё. Так гэта было ў найвялікшага носьбіта рэлігійнамесіянскай ідэі – у старажытным Ізраілі, так гэта застаецца і ва ўсякага вялікага гістарычнага народа". С.Булгакаў дадае, што менавіта так разумелі нацыянальную ідэю Ф.Дастаеўскі, славянафілы, У.Салаўёў, якія звязвалі яе з сусветнымі задачамі рускай царквы або рускай культуры.

Да гэтых думак і разваг У.Салаўёва і С.Булгакава стасуюцца меркаванні не толькі В.Боўша, але і іншых беларускіх навукоўцаў. Так, Алесь Анціпенка ў артыкуле "Еўрапейскасць і хрысціянская ідэя беларускасці" адзначае, што "ідэя нацыі ці народа ёсць хоць і недасканалым, але ж вобразам хрысціянскай еднасці людзей", таму і нацыянальную ідэю "можна разглядаць у якасці прыступкі на шляху да спасціжэння найбольш глыбокай ідэі хрысціянскай сабарнасці".

Праблема нацыянальнай ідэі ў асэнсаванні В.Боўша і І.Анціпенкі патрабуе, на наш погляд, істотных удакладненняў. Калі нацыянальную ідэю разглядаць "у плане Бога", тады трэба прызнаць, што ёй уласцівы такія якасці, як міфалагічнасць і некаторая ірацыянальнасць. Яшчэ М.Бярдзяеў адзначаў: "Усе спробы рацыянальнага вызначэння нацыянальнасці вядуць да няўдач. Прыроду нацыянальнасці нельга вызначыць па нейкіх рацыянальна-ўмоўных прыкметах. Ні раса, ні тэрыторыя, ні мова, ні рэлігія не з"яўляюцца прыкметамі, якія вызначаюць нацыянальнасць. Нацыянальнасць – складанае гістарычнае ўтварэнне, яна фарміруецца ў выніку кроўнай сумесі рас і плямён, шматлікіх пераразмеркаванняў зямель, з якімі яна звязвае свой лёс, і духоўна-культурнага працэсу, які стварае яе непаўторны вобраз... Нацыянальнасць – патаемная, містычная, ірацыянальная, як і ўсякае індывідуальнае быццё".

Ігар Бабкоў прапаноўвае "разглядаць нацыянальную ідэю як нацыянальны архіў або нацыянальны гіпертэкст; нацыянальную саматоеснасць – як актуальны сённяшні зрэз, г.зн. частку агульнай нацыянальнай ідэі, якая запатрабавана цяперашняй культурнай свядомасцю". Уладзімір Роўда звяртае ўвагу на практычны аспект праблемы. Ён разважае аб "нацыянальнай ідэі як форме артыкуляцыі інтарэсаў

# КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

тыя гады толькі ордэнам св.Станіслава можна згадаць грамадскага і дзяржаўнага дзеяча Польшчы і ВКЛ, аўтара аграрных рэформ Паўла Ксаверыя Бжастоўскага (1767 г.), слонімскага старосту Ігнацыя Стравінскага (1770 г.), лідскага земскага пісара Александровіча (1770 г.), мінскага падкаморага Юзафа Прашынскага (1771 г.), пінскага маршалка Юзафа Кужанецкага (1774 г.), рагачоўскага старосту Міхала Паця (1775 г.), ашмянскага старосту Тадэвуша Коцела (1775 г.), рэчыцкага маршалка Казіміра Галецкага (1778 г.)...

...У 1788-1792 гг., падчас працы Чатырохгадовага Сойма, вельмі моцна актывізавалася палітычнае жыццё краіны. Частка шляхты рабіла пэўныя крокі, каб рэфармаваць і вывесці з крызісу Рэч Паспалітую. Кульмінацыяй гэтых падзей стала прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Адным з сродкаў пошуку прыхільнікаў рэформ былі розныя заахвочванні шляхты, у тым ліку ўзнагароджванне ордэнамі. Калі за першыя дваццаць гадоў праўлення Станіслава Аўгуста Панятоўскага ордэн св.Станіслава атрымалі 735, а ордэн Белага Арла 234 шляхціцы, то за 1788—1792 гг. ордэнам св.Станіслава адзначаны 649, а ордэнам Белага Арла 210 чалавек. З Вялікага княства Літоўскага ў гэты перыяд больш за 100 чалавек атрымалі ордэн св.Станіслава, а каля 50 – ордэн Белага Арла...

...У 1792 г. вышэйшую ўзнагароду краіны атрымалі некалькі кіраўнікоў мясцовых органаў улады. Напрыклад, маршалкі – аршанскі Мікалай Храпавіцкі, пінскі Францішак Друцкі, рэчыцкі Казімір Хлявінскі, гарадзенскі Казімір Волмер, старосты – навагрудскі Тадэвуш Чацкі і вілейскі Юзаф Пац. Гэта было не выпадкова, бо менавіта ад мясцовых павятовых улад шмат чаго залежала ў падтрымцы рэформ, якія праводзіў Сойм.

З кавалераў ордэна св.Станіслава з ВКЛ у гэты час таксама значную частку складалі прадстаўнікі павятовых улад. Напрыклад, у 1789 г. ордэнам былі адзначаны магілёўскі маршалак Ян Галынскі, пінскі падкаморы Людвік Ажэшка; у 1790 г. – гарадзенскі падкаморы Францішак Юндзіл, навагрудскі стольнік Міхал Гінтэр, мінскі староста Міхал Бжастоўскі; у 1791 г. – лідскі староста Юзаф Сцыпіён, аршанскі падстолі Ігнацій Амульскі. Узнагароду тады таксама атрымалі і многія афіцэры з войска ВКЛ. Напрыклад, генерал-паручнік Бенядзікт Ваўжэцкі, генерал-маёры Ідэльфонс Стрытынскі, Ян Агінскі, Мікалай Радзівіл (у 1792 г. ён атрымаў і ордэн Белага Арла), Адам Плятэр, генерал-інспектар Павел Грабоўскі, палкоўнік Кароль Мараўскі.



*Станіслаў Панятоўскі.*

У 1791 г. ордэн св.Станіслава атрымаў віленскі прэлат, а пазней прэзідэнт Трыбунала цывільнага Францішак Ксаверы Богуш. У часы дзейнасці Барскай канфедэрацыі ён быў адным з яе кіраўнікоў у Вялікім княстве Літоўскім. Актыўны ўдзел прыняў у паўстанні 1794 г., за што быў сасланы ў Расію. Пазней, пасля вяртання на Бацькаўшчыну ў 1803 г., пачаў займацца галоўным чынам навуковай дзейнасцю. Напісаў шэраг прац па гісторыі, філасофіі, тэалогіі, а таксама некалькі літаратурных твораў.

У 1793 г. ордэнам св.Станіслава была адзначана 101 асоба. З іх каля 40 чалавек былі з Вялікага княства Літоўскага. Такая вялікая, як ніколі, колькасць "літоўскіх" кавалераў сведчыць пра значную ролю менавіта шляхты ВКЛ у падзеях на пачатку 90-х гг. XVIII ст.

Як бачна з вышэйпрыведзеных фактаў, ордэны ў Рэчы Паспалітай маглі атрымаць у асноўным прадстаўнікі магнацкіх родаў, асобы, якія займалі пэўныя дзяржаўныя пасады альбо з"яўляліся каталіцкімі іерархамі і адыгрывалі значную ролю ў сацыяльна-палітычным жыцці краіны.

Аднак у час праўлення Станіслава Аўгуста Панятоўскага магчымасць атрымаць узнагароды мелі прадстаўнікі і іншых сацыяльных груп. Так, ордэнам св.Станіслава адзначаліся і уніяцкія іерархі. Напрыклад, у 1775 г. ордэн атрымаў берасцейскі біскуп Антоні Младоўскі, а ў 1779 г. – пінскі біскуп Гедэон Гарбацкі.

Вядомыя дзеячы культуры і навукі Рэчы Паспалітай таксама маглі стаць кавалерамі ордэнаў краіны. Пэўная частка іх была з Вялікага княства Літоўскага.

Кавалерамі абодвух ордэнаў Рэчы Паспалітай былі беларускі вучоны, пісьменнік, палітычны дзеяч Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, ...грамадскі палітычны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ, а таксама публіцыст, паэт, перакладчык, уладальнік знакамітай бібліятэкі Іаахім Храптовіч, палітычны дзеяч, дыпламат, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г. у ВКЛ, а таксама вядомы кампазітар Міхал Клеафас Агінскі...

У 1785 г. ордэнам св.Станіслава, а ў 1793 г. ордэнам Белага Арла быў адзначаны вядомы беларускі асветнік Марцін Пачобут-Адляніцкі. Як рэктар віленскага універсітэта, М.Пачобут-Адляніцкі прымаў актыўны ўдзел у працы Камісіі народнай адукацыі па ВКЛ. Ён быў першым дырэктарам Віленскай астранамічнай абсерваторыі, заснавальнікам навуковай школы, якая вяла даследаванні ў галіне астранамічнай навукі і зрабіла некалькі адкрыццяў у гэтай сферы. З адзначаных ордэнам св.Станіслава трэба прыгадаць мысліцеля, гісторыка, літаратара Міколу Вольскага, ...а таксама палітычнага і царкоўнага дзеяча, багаслова і асветніка Міхала Францішка Карповіча. Апошні, дарэчы, займаўся таксама выкладчыцкай і прапаведніцкай дзейнасцю, пісаў вершы, прапагандаваў ідэі французскіх асветнікаў. Ён горача падтрымаў Канстытуцыю 3 мая 1791 г., а таксама прыняў актыўны ўдзел у паўстанні 1794 г.

Ордэны Белага Арла і св.Станіслава былі перш за ўсё ўзнагародамі за грамадзянскія заслугі. Доўгі час у Рэчы Паспалітай не было ваеннага ордэна. Такой узнагародай стаў ордэн Virtuti Militari. Гісторыя гэтай узнагароды непасрэдна звязана з вайною ў абарону Канстытуцыі 3 мая 1791 г., якая распачалася ў 1792 г. Рашэнне пра ўвядзенне ўзнагароды было прынята Станіславам Аўгустам Панятоўскім на пачатку чэрвеня 1792 г. Першапачаткова яна ўяўляла сабой медаль, які вырабляўся з серабра і золата. Першымі гэты знак 25 чэрвеня 1792 г. атрымалі салдаты і афіцэры дывізіі Юзафа Панятоўскага, якія вызначыліся мужнасцю і храбрасцю ў баях.

Пазней медаль пераўтварыўся ў ордэн, заснаваны па ўзору аўстрыйскага ордэна Марыі Тэрэзіі. Знакі ордэна цяпер дзяліліся на пяць ступеняў. Першымі трыма – залатым, камандорскім і кавалерскім крыжамі – згодна са статутам, меркавалася адзначаць афіцэраў, а чацвёртай і пятай – залатым і сярэбраным крыжамі – салдат. Агульная колькасць адзначаных ордэнам Virtuti Militari да яго забароны склала 526 асоб. Камандорскім крыжам быў адзначаны адзіны Юзаф Панятоўскі. Кавалерскім крыжам узнагароджана 86, а сярэбраным 439 чалавек. На сённяшні дзень вядомыя прозвішчы толькі 154 кавалераў ордэна, з якіх 40 – гэта салдаты і афіцэры войска ВКЛ (27 адзначаны кавалерскім і 13 сярэбраным крыжамі)...



*Францішак Ксаверы Богуш.*



*Ян Фрэдэрык Сапега.*

...Сярод узнагароджаных сярэбраным крыжам былі... некалькі салдат 2-га і 8-га літоўскіх рэгіментаў: Казіміраў, Юркевіч, Федаровіч, Каржанеўскі, Галашкевіч. Безумоўна, гэта былі выхадцы з сялян, а вядомы польскі даследчык К.Філіпаў лічыць іх праваслаўнымі беларусамі. Шмат хто з узнагароджаных вайсковым ордэнам прыняў актыўны ўдзел у паўстанні 1794 г.

Такім чынам, ордэнам Белага Арла ў час існавання Рэчы Паспалітай было адзначана каля 940 асоб, ...ордэнам св.Станіслава каля 1 700, а ордэнам Virtuti Militari 526 чалавек. Сярод іх з Вялікага княства Літоўскага вышэйшы ордэн краіны атрымалі каля 200 асоб, ордэн св.Станіслава – каля 330 чалавек. Што датычыцца вайсковай узнагароды, то вядомыя толькі прозвішчы 40 салдат і афіцэраў з войска ВКЛ.

У 1795 г., пасля трэцяга падзелу, знікла з палітычнай карты Рэч Паспалітая. Далейшы лёс ордэнаў, пра якія ішла размова, вельмі цікавы, мудрагелісты і розны.

---

грамадзянскай супольнасці", здольнай "аб"яднаць людзей розных сацыяльна-палітычных думак, прадстаўнікоў супрацьлеглых арыентацый".

Кожны з прадстаўнікоў як гістарычнага, так і філасофскага напрамкаў, на нашу думку, мае рацыянальныя погляды і меркаванні. Разам з тым, на пытанне, ці маюць беларусы канкрэтнае паняцце "нацыянальная ідэя", адказу яны не даюць...

...Для больш глыбокага асэнсавання сутнасці беларускай нацыянальнай ідэі варта звярнуцца да гісторыі іншых краін...

...У беларускай гістарыяграфіі гісторыя і вопыт складвання амерыканскай і іншых нацый, на жаль, не асэнсаваны. Таму нагадаем, што амерыканцы не мелі агульнагістарычнага мінулага. Штогод у краіну прыязджала мноства новых імігрантаў з самых розных краін, і ўсе яны былі носьбітамі розных культур.

Пры заснаванні дзяржавы патрэбна была ідэя, каб яна стала "плавільным катлом" новай нацыі, якая магла б уплываць на фарміраванне светапогляду і на камунікатыўную функцыю культуры ўвогуле. Ідэя барацьбы за права на жыццё, свабоду і імкненне да шчасця была блізкая і зразумелая ўсяму грамадству і кожнаму чалавеку. Т.Джэферсан, адзначаючы ролю амерыканскай ідэі ў стварэнні і жыцці нацыі, гаварыў у 1805 г.: "Бог вёў нашых продкаў так, як некалі ізраільцян"...

Французская нацыя завяршыла сваё фарміраванне ў XVIII ст. У гэты час вырасла і заявіла пра сябе яе інтэлігенцыя, якая ўзначаліла барацьбу французаў супраць феадальнай іерархіі. Інтэлігенцыя адыграла вялікую ролю ў фарміраванні новага нацыянальнага светапогляду ў межах трыяды: космас – тэас – сатэрыяс, што было характэрна для XVII-XVIII стст.

Імёны Франсуа-Мары Аруэ (Вальтэра), Шарля Луі Мантэск"е, Жан Жака Русо, Дэні Дзідро, Жана Д"Аламбера, Даніэля дэ Саля сталі вядомымі ва ўсім свеце.

У філасофскіх дыскусіях нарадзілася нацыянальная ідэя французаў: "Liberte! Eqalite! Fraternite!" Гэтая ідэя – "Свабода! Роўнасць! Братэрства!" – стала вызначальнай не толькі для французаў. Яна стала імпульсам, які надаў жыццёвую сілу нацыянальным ідэям іншых народаў, у тым ліку і беларускай.

Нацыянальная ідэя амерыканцаў і французаў нарадзілася ў барацьбе гэтых народаў з такой з"явай, як "выклік гісторыі". А.Тойнбі заўважае: "Прадстаўнікі аднаго і таго ж віду грамадства, апынуўшыся ў аднолькавых умовах, зусім па-рознаму рэагуюць на іспыт – так званы выклік гісторыі. Адны адразу ж гінуць; другія выжываюць за такі кошт, што пасля гэтага ні на што не здольныя; трэція так удала супрацьстаяць выкліку, што выходзяць не толькі не знясіленымі, але наадварот, ствараюць больш спрыяльныя ўмовы для пераадолення цяжкасцей, якія іх чакаюць у будучым". Далей А.Тойнбі падкрэслівае: "З навуковага пункту гледжання можа здацца чыстай выпадковасцю тая акалічнасць, што матэрыяльныя сродкі, створаныя чалавекам, валодаюць большай здольнасцю да выжывання, чым здабыткі чалавечай душы – грамадскія інстытуты, пачуцці, ідэі. У сапраўднасці, калі гэты ментальны апарат задзейнічаны, ён адыгрывае куды больш важную ролю для чалавека, чым матэрыяльная сфера яго жыцця".

У XIX ст. гісторыя кінула выклік беларусам і іншым народам Расійскай імперыі, якая, як адзначаў У.Ленін, ператварылася ў "турму народаў".

К.Каліноўскі... ў апошнім сваім звароце да беларускага народа пісаў: "Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але не жаль згінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, шчырасці слова мае прадсмяротнае... Вайой, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную". Гэтыя словы К.Каліноўскага сталі яго духоўным запаветам, нацыянальнай ідэяй беларусаў. Гэта ўздымае К.Каліноўскага на ўзровень з бацькамі-заснавальнікамі ЗША.

Што ж такое "чалавечае права"? К.Каліноўскі тлумачыць: гэта права нацыі на вольнасць, "якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробім". Гэта простае і зразумелае для ўсіх выказванне думкі аб свабодзе і суверэнным праве кожнага народа жыць не ў "турме", а ўсталяваць такі лад жыцця, які ён сам пажадае, права, якім чалавека надзяліў Бог.

Што ж такое "свая вера, зямля свая родная"? Гэта ўвасабленне надзеі на свае хрысціянскія і гістарычныя каштоўнасці, якімі спрадвеку валодалі беларусы: на мову, нацыянальна-культурную спадчыну, дзяржаўнасць і незалежнасць.

На нашу думку, беларускай нацыянальнай ідэі ўласцівы тыя ж культуралагічныя рысы, якія ўласцівы ідэям амерыканцаў і французаў.

**Беларуская нацыянальная ідэя**

— гэта найперш шлях беларускага народа ў барацьбе за здзяйсненне яе ідэалаў;

— гэта нацыянальны міф, які кожнае новае пакаленне беларусаў, услед за К.Каліноўскім, напаўняла нацыянальнай адметнасцю, жыццёвым успрыняццем, уласцівым яго часу. У гэтай іпастасі нацыянальная ідэя з"яўляецца той культуралагічнай асновай, якая ўздзейнічае на чалавека і грамадства на працягу ўсяго жыцця, прычым незалежна ад таго, наколькі, у якой ступені кожны чалавек усведамляе гэты ўплыў і гэтае ўздзеянне.

Міф захоўвае і трансліруе культурную спадчыну, асабліва ў галіне рэлігіі, ідэалогіі і мастацтва. Гэта значыць, што М.Баброўскі, І.Даніловіч або І.Канчэўскі не маглі быць аўтарамі нацыянальнай ідэі беларусаў. Яны не маглі прыдумаць яе. Толькі К.Каліноўскі надаў канкрэтнасць нацыянальным імкненням, якія ахапілі грамадства падчас паўстання.

Адначасова нацыянальная ідэя беларусаў – гэта частка іх нацыянальнага свету, неад"емная частка нацыянальнай гісторыі. Нацыянальны свет як з"ява таксама мае міфалагічнае паходжанне. Гэта, па сутнасці, адзіны космас, у якім зліты чалавек і прырода, але пры гэтым іх аб"яднанне адбываецца толькі ў межах культуры. Фундаментальнае тэарэтычнае палажэнне неапазітывізму аб тым, што "ніякая ідэя не можа быць зразумелай без яе гісторыі", з"яўляецца, на наш погляд, незавершаным, яго трэба ўдакладніць – "ніякая нацыянальная ідэя не можа быць зразумелай і прынятай без яе гісторыі". У гэтым выпадку нацыянальная ідэя беларусаў, пачынаючы з XIX ст., атрымала сваіх носьбітаў і песняроў, таму што найперш была прынята як культурная каштоўнасць уласнага жыццёвага свету.

Непасрэднае дачыненне да барацьбы за здзяйсненне нацыянальных ідэалаў мелі К.Каганец, А.Уласаў, М.Доўнар-Запольскі, В.Ластоўскі, браты А. і І.Луцкевічы, В.Іваноўскі, Я.Канчэр, Янка Купала, Якуб Колас, М.Багдановіч, У.Ігнатоўскі, А.Цвікевіч і многія іншыя. Пакаленне беларускай інтэлігенцыі 10-20-х гг. XX ст. пачало распрацоўваць нацыянальную канцэпцыю гістарычнага шляху Беларусі, што забяспечыла разуменне і прыняцце нацыянальнай ідэі ўжо ў новых гістарычных умовах.

Спадчыннае ўздзеянне нацыянальнага слова праяўляецца ў практычным жыцці, асабліва творчай інтэлігенцыі, навукоўцаў, сродкаў масавай інфармацыі. Мастацкая літаратура, палітычная рыторыка, жывапіс, вусная народная творчасць, наведванне мясцін, звязаных з гістарычнымі падзеямі, сістэма дзяржаўных узнагарод, гістарычная тапаніміка – усё гэта таксама садзейнічае ўзрастанню ўплыву нацыянальнай ідэі на грамадскую і індывідуальную свядомасць чалавека. Так было ў XIX ст., так адбываецца і ў сучаснай жыццёвай рэчаіснасці.

ФРАНЦЫЯ

# Мікалай ПАЎЛОЎСКІ: "МАСТАК ЗАЎСЁДЫ ЗАСТАЕЦЦА ЧАСТКАЙ СВАЙГО НАРОДА"

***Мікалай Паўлоўскі (Nikolas Pawlowski) нарадзіўся ў 1948 годзе ў гарадскім пасёлку Друя Браслаўскага раёна. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, вучыўся ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. З 1979 года жыве і працуе ў Парыжы. Удзельнічаў у выставах-салонах Гран-Пале і Цэнтра імя Жоржа Пампіду, а таксама ў 12 фестывалях групы Art-Cloche (Мастацтва-звон). У 1988 годзе яго творы выстаўляліся ў Эрмітажы і Траццякоўскай галерэі ў складзе калекцыі мастакоў-эмігрантаў Басмаджана. Тады ж пачаў супрацоўнічаць са студыяй графікі Apple Computer.***

***- Мікалай, нам, відавочна, не абысці пытанне, якім чынам вы апынуліся ў Парыжы і з савецкага мастака сталі французскім?***

- Не ведаю, ці стаў я "французскім мастаком". Бо, жывучы ў Францыі, я захаваў стары беларускі пашпарт і спадзяюся атрымаць новы.



*Аўтапартрэт.*

У 1979 годзе я трапіў у Парыж. У гэтым цэнтры мастацкай культуры я перастаў адчуваць сябе адзінокай "белай варонай". Пераканаўся, што мастак можа атрымаць прызнанне, не імкнучыся быць зразумелым усімі.

***- Мастак жыве не толькі на зямлі, але і на сваіх палотнах, як, напрыклад, і літаратар – на паперы. І таму, магчыма, творчы чалавек лягчэй пераносіць эміграцыю…***

- Так, для мяне прамавугольнік палатна ці паперы з"яўляецца амаль усёй прасторай жыцця. Першыя месяцы ў Парыжы былі псіхалагічна вельмі цяжкімі. З-за дэпрэсіі ці, калі хочаце, настальгіі я ратаваўся працай, маляваў бясконца – у пяць раніцы падаў знясілены, а днём зноў пачынаў маляваць.

***- Працавалі дзеля грошай ці каб выйсці з стрэсавага стану?***

- Гэта было неабходна, каб абараніцца ад цяжкіх думак. Грошы я спачатку зарабляў у вядомага мастака Міхаіла Шэмякіна, які меў шмат заказаў. Ён рабіў сілуэтны эскіз малюнка, а я размалёўваў яго. Гэта было цікава, адносна лёгка, а заробленае давала магчымасць здымаць кватэру і займацца сваёй справай.

Сапраўдная радзіма для мастака – яго майстэрня: у час працы нараджаецца не толькі карціна, але і штосьці новае ў самім творцы. Разам з тым мастак застаецца часткай свайго народа…

Бывае такі стан у час работы, калі мастак выходзіць на нейкі ўзровень, на якім можа як бы вандраваць у часе, раствараць уласны лёс у лёсе свайго народа. Такое адчуванне было ў мяне і ў Мінску, калі працаваў над касмічнымі паўабстрактнымі пейзажамі, і ў Парыжы, калі займаўся геаметрычнымі структурамі, якія чымсьці нагадвалі народны арнамент, але мелі некалькі планаў. Камп"ютэрная графіка цяпер звяртаецца да народнага мастацтва, да тканых дываноў. Я таксама ствараю ўзоры, падобныя да тых, што рабіл[illegible]ая ба[illegible]. Часам у якасці геаметрычных элементаў выкар[illegible]оўва[illegible] а літары – як, напрыклад, у трохслойнай кампазіцыі "Art". Яна мне нагадвае штосьці накшталт табліцы акуліста для праверкі зроку чалавека. Глядач павінен адначасова бачыць усе тры ўзроўні, каб прачытаць: "Art" (мастацтва).

Напрыканцы 80-х гадоў у мяне з"явілася ідэя аб"яднаць усе тры накірункі майго мастацтва, тры розныя светы ў адным творы. Я зрабіў аўтапартрэт, у якім частка твару ўяўляла сабой экспрэсіўны жывапіс, другая – геаметрычныя структуры, увёў туды ж некалькі рэальных аб"ектаў, г.зн. перайшоў да рэльефа або "скульптурнага" жывапісу. Гэты твор аказаўся даволі ўдалым, мяне зацікавілі магчымасці такога калажнага метаду, і з таго часу я часта працую ў гэтым напрамку.

***- Мне здаецца, для сучаснага мастацтва наогул характэрна спалучаць розныя стылі ў адным творы.***

- Пераход сучаснага мастацтва ад мадэрнізму да постмадэрнізму я б назваў, карыстаючыся палітычнымі тэрмінамі, пераходам ад таталітарызму да дэмакратыі. У традыцыйным авангардзе кожны мастак тварыў у накірунку адной "партыі", адной думкі. Напрыклад, мастак-"геаметр" не мог дазволіць сабе пісаць з натуры ці адысці ў нейкі іншы бок, сюррэаліст не мог дазволіць сабе напісаць штосьці абстрактнае, а экспрэсіяніст – займацца геаметрычнымі структурамі. Цяпер жа адбыўся пераход да плюралістычнага жывапісу, дзе розныя ідэі і тэхнікі існуюць і дапамагаюць адна адной.

***- Мне думаецца, можна гаварыць пра ўход не толькі ад таталітарнага, але і ад аўтарытарнага мастацтва: раней мастак лічыўся адзіным аўтарам свайго твора і дыктаваў гледачам, як яго трэба разумець, а цяпер усё больш улады над творам атрымліваюць гледачы: яны самі вырашаюць, што ж такое намаляваў мастак.***

- Нават з"яўляюцца творы, якія запрашаюць гледача штосьці перасунуць, націснуць нейкую кнопку – прыкласці свае рукі, каб стаць сааўтарам мастака. Мастацтва ва ўсё большай ступені залежыць не ад таго, хто яго паказвае, а ад таго, хто яго ўспрымае.

***- Напэўна, толькі капіроўшчык ведае, што яму яшчэ патрэбна зрабіць, каб закончыць твор, у той час як сапраўдны творца не ведае, дзе ён спыніцца.***

- Менавіта гэта і цікавіць мяне ў маёй працы. Як толькі твор скончаны – магу прадаць яго за любы кошт ці аддаць за так і наогул забыць. Адзінае, што мяне цікавіць, - гэта заўтрашняя работа. Такія адносіны да творчасці дапамагаюць хутчэй развівацца, але, з другога боку, ствараюць цяжкасці ў камерцыйным плане. Каб мець поспех і прадаваць работы – патрэбна ўсё ж такі паўтараць сябе.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

ЭСТОНІЯ

# ПАМЯЦЬ АБ ЯНЕ СКРЫГАНЕ

Эстонская зямля захоўвае памяць аб многіх трагічных лёсах людзей, якія жылі на ёй. Адзін з іх – наш зямляк, пісьменнік Ян Скрыган.



*Паэт Уладзімір Дзехцярук ля мемарыяльнай дошкі ў гонар Яна Скрыгана.*

Цяжкі лёс выпаў на долю гэтага чалавека. У 1937 годзе ён быў сасланы ў Сібір на 10 гадоў без права перапіскі. На вакзале першы і апошні раз убачыў свайго сына, якому споўнілася толькі пяць дзён. У 1948 го-дзе па запрашэнню сябра патрапіў у Эстонію, дзе ўладкаваўся бухгалтарам на сланцавы камбінат. З самага пачатку паставіў сабе мэту – вывучыць эстонскую мову і ўжо праз год дасканала валодаў ёю.

Літаратурная спадчына Яна Скрыгана невялікая, але вельмі цікавая. У яго творах – і жыццёвыя гісторыі, і філасофскі роздум, і каханне. Пісьменнік зрабіў цыкл твораў пра сябе. "Некалькі хвілін з чужога жыцця" – апавяданні пра знакамітых людзей, з якімі ён сустракаўся і жыў побач.

Тры гады таму старшыня беларуска-эстонскага згуртавання ў Йыхві Маргарыта Астраумава падзялілася са мной задумай устанавіць мемарыяльную дошку ў гонар пісьменніка Яна Скрыгана. З разуменнем і павагай аднеслася да гэтай ідэі кіраўніцтва эстонскага горада Йыхві. Праект, распрацаваны вядомым беларускім скульптарам Валяр"янам Янушкевічам, прафінансавалі Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей і Міністэрства культуры Беларусі. Нядаўна ў парку горада Ківыылі адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі, на якім прысутнічаў унук пісьменніка Юрый Скрыган.

# ПАКРОЎСКІЯ ГУЛЬНІ

Звычайна ў гэты дзень у беларускіх вёсках праводзіліся кірмашы, якія суправаджаліся народнымі гуляннямі. Аднавіць гэтую традыцыю паспрабавалі беларусы з Нарвы. Задуму пачалі ажыццяўляць яшчэ летам. Тады, падчас свайго прыезду на ра-дзіму, да нас у Дзяржкамітэт завітала Таццяна Караткевіч, старшыня беларускага аб"яднання ў Нарве, і расказала аб сваёй новай ідэі.



*Госці з Беларусі ў Нарве.*

Яе прапанова знайшла разуменне і падтрымку. Быў аплачаны кошт самаробнага ткацкага станка. А каб удалося больш поўна аднавіць увесь рытуал, мы парэкамендавалі Таццяне Караткевіч далучыць да гэтай справы кіраўніка Лепельскага раённага Дома рамёстваў Вольгу Жукаву. Жанчыны знайшлі агульную мову і праявілі зацікаўленасць да супрацоўніцтва. Так атрымаўся "Беларускі падворак". А свята склалася з масавых народных гулянняў і выставы беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У мастацкай галерэі старажытнага замка сем майстроў з Лепеля два тыдні дэманстравалі сваё майстэрства, а жадаючыя маглі навучыцца ткаць і набыць асобныя рэчы.

**Ніна ПЕТУХОВА**,
*супрацоўнік Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі.*

ЛІТВА

# З РОДУ ЛЕГЕНДАРНАГА РУРЫКА

**Зміцер ВІШНЁЎ**

По бацькавай лініі Эдуард Падбярэзскі паходзіць ад знакамітых беларускіх князёў Падбярэзскіх або Друцкіх, што маюць карані генеалагічнага дрэва ад легендарнага Рурыка. А нарадзіўся ён у вёсцы Прасвет Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці. Патрапіў у Вільню выпадкова, бо на той час сям"я жыла ў гарадскім пасёлку Відзы Віцебскай вобласці, што за тры кіламетры ад літоўскай мяжы. Таму, калі Эдуард намерыўся вучыцца, ён паехаў не ў мінскае, а ў віленскае мастацкае вучылішча, бо гэта нашмат бліжэй да дому.

Сёння ў літоўскіх мастацкіх колах, ды і ў беларускіх таксама, Эдуард Падбярэзскі лічыцца фігурай аўтарытэтнай. Яго самая буйная праца захоўваецца ў віленскім касцёле святой Марыі і называецца "12 апосталаў". Кампазіцыя змяшчае 23 скульптуры, якія зроблены са штучнага мармуру.

Многія працы майстра знаходзяцца ў прыватных калекцыях ЗША, Англіі, Швецыі, Францыі, Германіі, Японіі і іншых краін. Цяпер ён займаецца помнікам, які мяркуецца ўсталяваць да 2000-годдзя хрысціянства. Выява Ісуса Хрыста вышынёй 6 метраў 20 сантыметраў будзе зробленая з жалезабетону. Што цікава, робячы ўсё жыццё гэткія фенаменальныя рэчы, сам Эдуард Падбярэзскі лічыць сябе ў першую чаргу акварэлістам.

- Як магло так стацца, што ўсё жыццё вы займаецеся скульптурай, а больш любіце акварэль.?

- Вядома, што ўвесь час хочацца займацца выключна творчасцю. Але нічога не зробіш, жыццё дыктуе свае ўмовы, таму даводзіцца многа часу аддаваць скульптуры, якая для мяне, як нейкая баявая гаспадарка. Так штодня і ваюю – махаю мячом. А вось калі закатваецца сонейка і нараджаецца ноч, тады і стараюся збегчы ў другую майстэрню, дзе магу прысвяціць сябе цалкам акварэлі. Скульптура для мяне – не творчасць.

- Але ж людзі так не лічаць…

- Яны лічаць акварэль дзяцінствам. Мая акварэль робіцца пад уплывам усходняй філасофіі. Тут адчуванне поўнай еднасці прыроды і чалавека – гэта метафізіка. У хвіліны творчасці я адчуваю сябе ў гармоніі са светам.

- А якія ёсць у вас праблемы акрамя нястачы часу?

- З матэрыялам асаблівых праблем няма. А вось хацелася б мець больш цікавых прапаноў. Патрэбны праекты. Напрыклад, гэткія, што ажыццяўляе цяпер скульптар Цэрэтэлі.

- Наколькі я ведаю, за вашымі скульптурамі едуць з розных краін, нягледзячы на ваша стаўленне да гэтага віду творчасці.

- Так, людзі знаходзяць мяне самі. Гэта нейкая містыка. А ў 1992 годзе настойліва прапаноўвалі перабрацца ў Мінск. Меркавалася, што я буду займацца скульптурамі для беларускіх касцёлаў. І быццам ужо мільгацела … Але ж адгаварылі.

- Ці проста было ў ранейшыя часы займацца скульптурамі для касцёлаў?

- Не. Тады было ўсё інакш. Я нават не мог уступіць у Саюз мастакоў, бо ўвесь час працаваў у касцёле, тады наогул заканадаўствам было прадугледжана пакаранне за прапаганду рэлігіі. Па законах тых часоў сёння мне, напэўна, маглі б даць пажыццёвае зняволянне, бо скульптуры знаходзяцца ў шмат якіх касцёлах: у Ашмянах, Гальшанах, Армянах, Вілейцы, Маладзечне… А ў Мінску – на кафедральным касцёле скульптура дзевы Марыі.

- Ці здараліся незвычайныя выпадкі, звязаныя з творчасцю?

- Былі сны, дзе сніў свой алтар "12 апосталаў". Бачыў дасканала, як ён выглядае. І гэты праект я ажыццявіў роўна праз пяць гадоў пасля сну… Было аднойчы, што памёр уначы. Пасапраўднаму – не ў сне. Адчуваў сябе шарам. Мабыць, быў нейкі астральны выхад з цела. Пасля гэтага я зразумеў, што душа не мае смерці. І стала зусім інакш жыць на гэтым свеце. Асабліва працаваць са скульптурай. Трохметровы манумент зрабіў за два тыдні…

***Мінск-Вільня-Мінск.***

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ *Маргарыты СТАРЫХ*

# БЕРАСТАВЫ ПРОМЫСЕЛ ДЗМІТРЫЯ ЗАЙЦАВА



***Не так ужо часта здараюцца ў журналісцкай справе адкрыцці, якія запамінаюцца. Адкрыцці Маргарыты Старых – гэта новыя імёны майстроў, унікальных людзей, якія змаглі "перакроіць" свой лёс і падпарадкавацца голасу спрадвечнага таленту, закладзенага ў іх. І як патрэбна было гэтым людзям, нашым сучаснікам, у пераломны момант жыцця слова журналіста, які змог ацаніць і расказаць усяму свету аб нараджэнні новага таленту. Гэтых людзей называюць НАРОДНЫМІ МАЙСТРАМІ.***

***Пагадзіцеся, што журналіст, які стаў аўтарам адкрыцця новых імёнаў, мае права на свой "збор твораў", на сваю творчую біяграфію.***

***Маргарыта Старых шмат гадоў працавала ў беларускамоўных газетах. Адна з пастаянных тэм журналісткі – народная творчасць. Яна так тлумачыць сваю прыхільнасць да яе: "Кожны з майстроў нясе ў сабе часцінку гармоніі Сусвету, Космасу. Яны своеасаблівы паказчык духоўнага здароўя нацыі. І ў тым, што, напрыклад, мінчанка Наталля Мацвеева пасля дваццаці гадоў работы тэхнолагам-фоталітографам занялася фларыстыкай, фітадызайнам, а Сямён Саўрыцкі з Лагойска, які шмат гадоў пісаў лозунгі, кінуў гэты занятак і стаў выдатным ганчаром, – свая заканамернасць. Пакрысе, але адыходзіць у нябыт час, калі народныя таленты ў большасці сваёй аказаліся не запатрабаванымі – іх станавілася ўсё менш і менш. Але неяк раптам выявілася, што нават у сталічным Мінску за апошнія дзесяць гадоў з"явілася нямала людзей, якія імкнуцца зацвердзіць сябе ў традыцыйнай народнай творчасці ці нейкіх іншых жанрах рукадзелля. Прыйдзе час, і аб гэтым феномене мастацтвазнаўцы будуць пісаць грунтоўныя даследаванні. Я ж імкнуся толькі заявіць аб нараджэнні таленту".***



*Фота Аляксандра РУЖАЧКІ.*

**...БЛУКАЮЧЫ** па лесе, ён натрапіў на дзве цудоўныя бярозы, паваленыя на зямлю кімсьці неразумным і бязлітасным. Побач валялася некалькі кавалкаў берасту – шаўковых, цёплых. Аддзеленыя ад ствала, яны працягвалі жыць, аддаючы ўвабраную сонечную энергію. Ён не мог зразумець, за што ж іх вось так бяздумна, мімаходам аблупілі і кінулі. І не мог дазволіць, каб гэта прыгажосць, жывая і сонечная, проста так скурочылася, засохла і змяшалася з зямлёй. Прынёс дадому і даў ёй другое жыццё. Берасцянку, падобную на мініяцюрнае вядзерца, зробленую ім тады, маці Дзімы Зайцава беражліва захоўвае. І гэта пры тым, што старэйшыя Зайцавы не адразу прынялі, ды, напэўна, і цяпер не да канца прымаюць рэзкі паварот у жыцці сына.

Мяркуйце самі: скончыў Дзмітрый Беларускі політэхнічны інстытут, аддзяленне робатаў і робатасістэм, працаваў майстрам на аўтамабільным заводзе і раптам усё кінуў, заняўся нейкімі вырабамі з берасту. І гэта для яго зусім не хобі, а асноўны занятак.

Толькі ва ўсім гэтым павароце, аказваецца, няма нічога спантаннага, выпадковага, а ёсць свядомая спроба вырвацца з укладу, што ўстаяўся і які сам Дзмітрый ахрысціў "калідорам", што вымушае рухацца ў адным накірунку. Словам, пасля года работы на вытворчасці ён стаў адчуваць, што яшчэ трохі – і завод ператворыць яго ў адну з шасцерань вялікага заводскага механізма.

- Я разумеў, - прызнаецца Дзмітрый, - калі рабіць тое, што ўсе, мне стане лягчэй, але я згублю сябе.

...Ён кінуў завод і заняўся берасцяным промыслам, які даваў не толькі пражытак, але і магчымасць быць у згодзе з сабой, сям"ёй. Напэўна, у тым, што Дзмітрый заняўся менавіта берастам, ёсць свая заканамернасць, бо гэты цёплы, жывы матэрыял вяртае яго да першародных сур[illegible]й з прыродай. Іх страту ён аса[illegible] востра стаў адчуваць, калі пазнаёміўся з вучэннем Парфірыя Іванова.

І здарылася гэта яшчэ ў студэнцкія гады. Ірына, жонка Дзмітрыя, падзяляе яго зацік[illegible]ленасць і прыхільнасць да ву[illegible] вялікага настаўніка здаровага ладу жыцця, заснаванага на яднанні з прыродай.



*Вырабы майстра.*

Таму згода пануе ў сям"і Зайцавых, дзе нядаўна нарадзілася трэцяе дзіця. І на пытанне, ці зрабіў ён у падарунак жонцы з выпадку нараджэння сына берасцяную грамату, Дзмітрый з лёгкай збянтэжанасцю адказаў:

- Тады трэба было б дзве граматы рабіць: я ж таксама вельмі пры чым: можна сказаць на роўных прайшоў гэты шлях і ведаю, чаго варта дзіцяці з"явіцца на свет, бо першым прыняў яго на рукі.

Між іншым, сям"я – гэта таксама адна з прычын, чаму Дзмітрый вырашыў расстацца з заводам. Яму хочацца, каб дзеці яго былі ўвесь час побач, каб ён не менш жонкі прымаў удзел у іх выхаванні.

...У маі сям"я Зайцавых адпраўляецца ў вёску. У Докшыцкім раёне Ірыне ў спадчыну ад дзядулі і бабулі дастаўся дом з садам і агародам. Тут нічога не перашкаджае ім адчуваць гармонію жыцця. Дзіма займаецца садам, агародам і нарыхтоўкай берасту – у маі-чэрвені самая пара. У Мінск яны вяртаюцца глыбокай восенню, падужэлыя фізічна і духоўна, з запасамі на зіму.

І наступае час для берасту. Дзмітрый дастае свой няхітры інструмент, шаўкавістыя палоскі, і ў гарадскую кватэру ўступаюць ледзь чутны шум і водар лесу.

- Бераст – багаты матэрыял, - упэўнены майстра, - з яго амаль усё можна рабіць: утылітарныя рэчы, біжутэрыю, запісныя кніжачкі... Прычым вырабы гэтыя нескладана ўпрыгожваць выпальваннем, цісненнем, разьбой, таніроўкай. Дарэчы, бераст намнога лепш, чым папера, трымае малюнак. Матэрыял жывы, і ў берасцянках, кашах добра соль і крупы захоўваюцца. А яшчэ шкатулачкі зручныя атрымліваюцца для срэбраных упрыгожанняў – бераст не дае ім цямнець.

...Займаецца з берастам Дзмітрый Зайцаў чатыры гады і перакананы, што гэта самае што ні на [illegible]ь беларуска[illegible]іяство. Бо здаўна ў лясах нашых бяроза расце, прычым некалькіх відаў. І Брэст наш ад Бяр[illegible] длік свой вяд[illegible]. Ну а тое, што да нашых дзён мала вырабаў берасцяных дайшло, дык на гэта свае прычыны і тлумачэнні ёсць.

Неяк Дзмітрый у пошуках дадатковай інфармацыі па берасцянай справе прыйшоў у Нацыянальную бібліятэку – ды дзе там! Амаль ніякіх звестак не знайшоў. У фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры таксама асабліва парадавацца не давялося: паказалі нешматлікія вырабы, зробленыя беларускімі майстрамі, - у асноўным табакеркі, выкананыя акуратна, але без асаблівых упрыгожанняў.

А не так даўно на адной з выстаў пазнаёміўся ён з калегам, які берастам займаецца даўно. Самі работы калегі і тое, што той расказваў аб убачаным у паездках па вёсках, пацвердзілі сумненні Дзмітрыя. Ён прызнаецца:

- Я раптам выразна зразумеў, што адолеў усяго толькі першы пласт рамяства. Цяпер асабліва хочацца раскрыць для сябе новыя магчымасці берасту, бо ёсць з кім параўноўваць. Мой калега не толькі утылітарнымі рэчамі займаецца, ён нават іконы на берасце робіць. Між іншым, яму давялося ў адной з вёсак бачыць Біблію берасцяную, зробленую беларускімі майстрамі 300 гадоў таму. Гэта ўпэўніла, што магчымасці берасту значна шырэйшыя, чым можна ўявіць.

Ці займуся я іконамі? Магчыма, калі-небудзь, але зараз я яшчэ ўнутрана не гатовы да гэтага. Ды, напэўна, і майстэрства яшчэ малавата.

Я бачыла работы Дзмітрыя Зайцава на выставах Саюза майстроў народнай творчасці, у галерэі Нацыянальнай дэкаратыўна-прыкладной творчасці, што ў Мінску па вуліцы Кастрычніцкай, 5, і магу сведчыць: ён вельмі прымяншае свае здольнасці. Работы майстра вытанчаныя і прыносяць радасць тым, хто іх набывае. І разам з тым зразумелае жаданне Дзмітрыя Зайцава выйсці на новы ўзровень творчасці, яго патрабавальнасць да сябе.

**...АДНУ** са сцен кватэры Зайцавых упрыгожваюць малюнкі старэйшай дачкі – шасцігадовай Надзейкі. На другой – вісіць не зусім звычайная азбука, каб Надзейка "гуляючы", без прымусу запамінала літары і словы. Двухгадовая Даша асабліва яшчэ не вызначылася ў сваіх інтарэсах, як і Даніла, якому з роду некалькі месяцаў. Але названы ён так у гонар Данілы – майстра. Памятаеце цудоўную казку Бажова "Каменная кветка"?!



*Як звычайна, уся сям"я разам.*

Хто ведае, можа, Даніла Зайцаў і стане калі-небудзь цудоўным майстрам, якімі была ды і зараз славутая зямля беларуская, пацвярджэнне чаму – яго ўласны бацька.

Графічная ідэя і вёрстка нумара Канстанціна Шастоўскага

Голас Радзімы

Рэдакцыйная калегія

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.
Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку" (220041, Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 2097.
Падпісана да друку 23.11.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне №81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82